*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 36 (144) ◈ 8 верасня 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



### Новы замах на незалежнасць Беларусі

Чарговай спробай распаліць напружанасць і ўнесці нестабільнасць стала задума правядзення «кангрэса народаў Беларусі», з якой выступілі арганізацыі камуністычнага ды імперскага кірунку, аб'яднаныя ў «Народное движение Беларуси». Такую заяву зрабілі многія дэмакратычныя партыі і рухі рэспублікі. Гэта, гаворыцца ў заяве, прыкрыв вынікі здыскрэдытаваных палітычных колаў, якія зацікаўлены ў тым, каб захаваць у Беларусі расійскія войскі, паласу супрацьпаветранай і супрацьракетнай абароны Масквы, каб фактычна пакінуць нас у стане краіны-заложніцы імперскай палітыкі. Вось што крыецца за размовамі аб канфедэрацыі. Трэба спыніць спробы знішчыць незалежнасць нашай краіны і перакрэсліць надзею на лепшае ў нашага народа.

Заяву падпісалі:

Ад Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» — Зянон Пазьняк

Ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады — Алег Трусаў

Ад Згуртавання беларускіх татар «Аль-Кітаб» — Барыс Шабановіч

Ад Саюза палякаў Беларусі — Тадэвуш Гавін

Ад Свабоднага прафсаюза Беларусі — Генадзь Быкаў

Ад Асацыяцыі ўкраінцаў Беларусі «Ватра» — Багдан Міхайлюк

Ад Беларускай сялянскай партыі — Іван Нікітчанка

Ад Аб'яднання беларускіх яўрэйскіх арганізацый і суполак — Леанід Левін

Ад Таварыства немцаў Беларусі «Адраджэнне» (Беларускага цэнтра нямецкай культуры) — Аляксандр Майснэр

Ад Беларуска-літоўскага задзіночання — Ян Войніч

Ад Жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі — Людміла Пеціна

Ад Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» — Ганна Сурмач

Ад Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі — Станіслаў Гусак

Ад Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі — Алесь Апрышка

## 1794



# ДУБ ЗЛАМАЎСЯ, КАМЕНЬ ЛЯЖЫЦЬ

***Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў Вызвольнага паўстання 1794 г. наладзіў у жніўні навуковую экспедыцыю ў Берасцейскую, Гарадзенскую ды Віцебскую вобласці. Яе мэта: удакладніць месцы баёў, сутычак паўстанцаў з расійскім войскам, выявіць магілы палеглых у гэтых бітвах, наведаць мясціны, дзе нарадзіліся і жылі кіраўнікі паўстання. У экспедыцыі ўдзельнічаў і наш карэспандэнт.***

У дзяцінстве я верыў, што камяні растуць. Колькі іх ляжала ў крушні на бацькоўскім полі, а ўсё яшчэ штогод даводзілася збіраць. На жаль, яны не растуць. Шкада, інакш бы камяні-помнікі на магілах змагароў за нашу незалежнасць не загубіліся б у зеляніне цвінтароў і могілак, а камень «Ценям Касцюшкі», пакладзены нашым кампазітарам Міхалам Клеафасам Агінскім у Залессі, за тыя 200 гадоў стаўся б волатам. А якія магутныя, надзейныя падмуркі для нашай будучыні збудавалі б мы цяпер з глыжоў, што сабралі б з нашых палеткаў, з палеткаў нашай памяці.

Час збіраць камяні...

Два гады таму баранавіцкія краязнаўцы пачалі першымі. І цяпер каля Сталовіцкай царквы (перапробленай ў 1868 годзе з касцёла) стаіць валун-помнік жаўнерам Міхала Казіміра Агінскага, вялікага гетмана Вялікага княства Літоўскага, палеглым тут 12 верасня 1772 года. Той восеньскай ноччу на іх, не зважаючы на непісаны рыцарскі кодэкс не ваяваць пасля заходу сонца, напалі расійскія салдаты, якімі камандаваў А. В. Суvotораў.

Другі прыпынак экспедыцыі быў у Слоніме. Пісьменнік і краязнаўца Васіль Супрун паказаў нам месца бою паўстанцкага атрада Серакоўскага з расійскім войскам на колішняй замкавай плошчы (неўзабаве яна, верагодна, будзе насіць імя Льва Сапегі) каля касцёла святога Андрэя. Гэта была першая ўдача экспедыцыі. Акрыленыя ёю, мы імчалі на радзіму Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі. А нарадзіўся ён 2 лютага 1746 года ў фальварку Мерачоўшчына каля мястэчка Косаў,

*Заканчэнне на с. 2—3.*

*У партыях і рухах*

# Утрыманскія настроі да дабра не давядуць

Выканаўчы камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады распаўсюдзіў заяву, у якой гаворыцца: «25 жніўня мінула два гады, як Вярхоўны Савет Беларусі надаў канстытуцыйны статус Дэкларацыі аб суверэнітэце, аб'явіўшы нашу рэспубліку незалежнай дзяржавай.

Што дала і чаго не дала незалежнасць? За гэтыя два гады нашых дзяцей перасталі пасылаць папраўляць здароўе ў «гарачыя кропкі», паменшылася верагоднасць уцягнення нашага народа ў чарговае жорсткае супрацьстаянне ў Расіі, якое можа зноў прывесці да грамадзянскай вайны.

У той жа час два гады незалежнасці — гэта час страчаных для нашага народа магчымасцей закласці аснову сваёй дзяржавы, падмурак уласнай эфектыўнай эканомікі. Нашы суседзі з Прыбалтыкі і Расіі пачалі праводзіць, хай і не без памылак, рэальныя эканамічныя рэформы, якія пачынаюць працаваць на іх грамадства. У Расіі назіраецца павышэнне жыццёвага ўзроўню народа. У Беларусі сітуацыя процілеглая — пракамуністычны ўрад аказаўся здольным толькі на імітацыі рэформаў, што вядзе да рэзкага зніжэння жыцця народа. Больш таго, урад і яго прыхільнікі свядома кампраметуюць у вачах народа рынкавыя рэформы і дзяржаўную незалежнасць. Увесь час яны чакалі і чакаюць, калі ў Расіі адхіляць ад улады Ельцына і можна будзе абысціся без рэформаў. Такая палітыка прывяла краіну да палітычнага і эканамічнага тупіка.

У цывілізаваных краінах,— гаворыцца далей у заяве выканкама БСДГ,— кіраўнікоў урада, якія аказаліся няздольнымі кіраваць эканомікай, скіроўваюць у адстаўку. У нас жа пачаліся пошукі замежных «дабрадзеяў», якія б узялі на ўтрыманне эканоміку краіны. Прапануемая ж плата за «спонсарства» — страта дзяржаўнасці і ўцягненне нас у вір непрадказальных палітычных падзей у краінах СНД. Таму і едуць саветнік Старшыні Савета Міністраў і кіраўнік праўрадавага парламенцкага аб'яднання ў Маскву — прасіцца ў канфедэрацыю, таму і цягнуць Беларусь у ваенны саюз, спрабуючы крывёю нашых дзяцей сплаціць магчымасць яшчэ колькі часу пратрымацца ва ўладзе.

Але гэта марныя спадзяванні. У Расіі дастаткова ўласных праблем, каб утрымліваць яшчэ і беларускі сацыялізм. Тым болей, што хутка цана бензіну будзе аднолькавай і ў Парыжы, і ў Варшаве, і ў Ніжнім Ноўгарадзе. Нас, нашу эканоміку могуць уратаваць толькі рэальныя рэформы і людзі, здольныя іх ажыццявіць.

Выканаўчы камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады лічыць, што збанкрутаваўшыя палітыкі, якія даказалі сваю няздатнасць да кіравання краінай, павінны сысці з палітычнай арэны. Ён рашуча выступае супраць прапановы аб канфедэрацыі, патрабуе адстаўкі пракамуністычнага кіраўніцтва цяперашняга ўрада і стварэння кааліцыйнага ўрада нацыянальнага даверу.

***1 ВЕРАСНЯ НА ПЛЯЦЫ ЯКУБА КОЛАСА У МЕНСКУ** адкрыўся сёмы фестываль народнай творчасці «З музыкай да Коласа». Ён прысвечаны 70-годдзю выхаду ў свет паэмы Я. Коласа «Новая зямля».*

***УРАДАВАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** на чале з міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам наведала Літоўскую Рэспубліку. Адбыліся перамовы, якія маюць абаюдную цікавасць.*

***САВЕТ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ** аб выданні ў 1995—2000 гадах Беларускай энцыклапедыі ў васемнаццаці тамах. Плануемы наклад кожнага тома — 40 тысяч паасобнікаў.*

***ПАД ОРШАЙ ПРАЙШОЎ ТРЭЦІ БЕЛАРУСКІ ФЕСТЫВАЛЬ БАРДАЎСКАЙ ПЕСНІ.***

***У МЕНСКУ НА ВУЛІЦЫ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА** адбылося адкрыццё помніка беларускаму мастаку і краязнаўцу Язэпу Драздовічу.*




# ДУБ ЗЛАМАЎСЯ, КАМЕНЬ ЛЯЖЫЦЬ

*Заканчэнне.*

*Пачатак на с. 1.*

вядомага ў Заходняй Беларусі сваім культурным і палітычным рухам.

У мястэчка мы ўехалі па вуліцы імя Т. Касцюшкі, а першы напаткаць косавец, спадар Акавіты, згадзіўся паказаць нам месца, дзе да 1944 года, пакуль яго не спалілі партызаны, стаяў фальваркавы двор. Наш праваднік распавёў, як некалькі гадоў таму менавіта ён, прыспешаны раённым начальствам, ставіў тут камень і мацаваў на ім мемарыяльную дошку, расійскамоўны надпіс на якой паведамляе пра месца нараджэння нацыянальнага героя Польшчы. Дошку, пэўна ж, рабілі ў Івацэвічах, таксама наспех. І ніхто не падумаў, што дзяржава, у якой нарадзіўся і за незалежнасць якой ваяваў Касцюшка, называлася Рэч Паспалітая абодвух народаў, гэта значыць польскага і беларускага. І вядома, ні слова пра беларускае паходжанне Т. Касцюшкі, як і пра тое, што ён быў нацыянальным героем Злучаных Штатаў Амерыкі.

Не наша гэта выдумка, што ён беларус. Пагартаем кнігу «Тадэвуш Касцюшка», якую напісаў вядомы польскі пісьменнік і даследчык Фэлікс Канечны. «У годзе 1509, за каралём і вялікім князем Літвы, Жыгімонтам Старым, сустракаемся з Касцюшкам Фёдаравічам... Найстаршы, вядомы нам продак начальніка меў імя Фёдар, быў вызнаўцам рускай царквы». У адным з захаваных дакументаў чытаем: «Біў нам чалом дзяк наш Касцюшка Фёдаравіч і прасіў у нас сяльца ў Камянецкім павеце...» Сын Фёдара быў дзякам у вялікакняжацкай канцыляры Аляксандра Ягелончыка і ў першых гадах праўлення Жыгімонта Старога. Не быў простым пісарам, займаў, відаць, нейкую вышэйшую пасаду, бо чакала яго шчодрая каралеўская ўзнагарода: «Жыгімонт, Божаю міласцю кароль польскі, вялікі князь Літоўскі, Рускі, Прускі, Жмуйдскі і іншых» у 1509 годзе дорыць Канстанціну Фёдаравічу вёску Сяхновічы. Гэты Касцюшка, былы велакакняжацкі дзяк, відаць, меў аўтарытэт не толькі сярод пісараў канцыляры, бо неўзабаве ўзяў сабе за жонку дзяўчыну з старажытнага беларускага княжацкага роду — Ганну, гальшанскую князёўну.

Кім жа быў Касцюшка, за каго сябе падаваў? Чытаем у таго ж Канечнага ўрывак з ліста Касцюшкі: «Заклінаю вас усім, што ў вашым жыцці наймілейшае... каб яснавяльможны пан дабрадзей вырваў мяне... пажадайце мяне вярнуць у Літву, хіба выракаецеся мяне і няздольным бачыцё, каб служыў вам? Хто я? Ці ж не літвін, суайчыннік ваш, ад вас выбраны? Каго ж маю бараніць, калі не вас і сябе самога? Калі гэта вас не кране, каб я вярнуўся, то я сам хіба, Бог бачыць, што-небудзь дрэннае сабе зраблю! Бо злосць мяне бярэ: з Літвы каб у Кароне служыў, калі вы не маеце трох генералаў!» — так ён пісаў генералу Несялоўскаму.

Не варта згадваць словы, якімі Касцюшка пагардліва выказваўся пра жыхароў Вялікапольшчы, нам дастаткова, што сваю Літву — так, як вядома, называлі Беларусь — ён любіў найболей.

Не ведаем мы, што беларус Касцюшка быў патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. І вуліца яго імя адзіная — у Косаве. А вось А. В. Суворава, які сваім вайсковым талентам спрычыніўся да страты незалежнасці нашай дзяржавы, ушаноўваем: 45 калгасаў па ўсёй Беларусі носяць яго імя! Адзін з іх — непадалёку ад Кобрына. І калі мы даведаліся, што там паставілі помнік А. В. Су償ораву, то вырашылі туды наведацца.

І сапраўды, у вёсцы Залессе перад т. зв. цэнтрам, дзе праўленне калгаса, пошта, на невысокім падмурку стаіць бюст расійскага палкаводца. І не здзівіла нас, што малады старшыня заможнага калгаса не ведаў пра паходжанне Т. Касцюшкі, пра яго заслугі перад народамі ЗША, Польшчы, Беларусі. Добра было, што ён згадзіўся паслухаць пра гэта. Вось толькі здзівіла нас, што А. В. Сувораў у Залессі чорны. Няўжо даследчыкі памыляюцца, і расійскі генералісімус быў не шведскага, а афрыканскага, як, прыкладам, Ганібал, продак А. С. Пушкіна, паходжання? Пазней у Кобрынскім музеі імя А. В. Суворава мы ўбачылі карціну, на якой намалявана сустрэча падлетка Суворава з Ганібалам.

Але што нам да сустрэч чужых, калі не сказаць больш, людзей? Калі на Беларусі будзе музей Т. Касцюшкі ці хоць бы куток у нейкім музеі, дзе будзе стэнд пра нашага земляка? А там будзе выстаўлены дакумент ці проста згадана, што Тадэвуш Касцюшка дараваў волю неграм, якія былі яму падораныя ўрадам ЗША за неацэнныя заслугі перад гэтай краінай, народу якой ён дапамог выбавіцца з англійскай каланіяльнай няволі. Калі будзе вядома кожнаму беларусу і ці наогул будзе вядома, якія абарончыя ўмацаванні будаваў Т. Касцюшка, каб запабегчы гібелі жаўнераў амерыканскага войска? Напэўна ж, не разбіраў сялянскае жытло, як зрабіў гэта А. В. Сувораў у баі каля вёскі Крупчыцы, загадаўшы разбіраць хаты ў вёсцы Ходасы і класці мост праз раку Трасцяніцу. І, напэўна, не паліў вёскі, каб асвяціць пазіцыі непрыяцеля, як зрабіў гэта расійскі генералісімус у баі каля вёскі Арэхава, калі загадаў падпаліць яе, каб на тле палаючых хат былі відны паўстанцы.

Пра першы выпадак у Кобрынскім музеі апавядаюць: гэта ж звычайная вайсковая тактыка Суворава, хаця нам, недасведчаным, уяўляецца, што лепш было б зрабіць мост ці гаць з дрэў. Пра другі не згадваюць, хваліцца няма чым. Паліць сялянскае жытло — ганьба нават для акупантаў, а тут жа ўслаўляюць Суворава-вызваліцеля. Ад каго? На гэтае пытанне не ведаюць адказу нават у Кобрынскім музеі імя А. В. Суворава, хаця кожны адукаваны жыхар Беларусі цяпер ужо павінен ведаць, што наша дзяржава — Вялікае княства Літоўскае — было ў Рэчы Паспалітай абодвух народаў цалкам незалежным. А ў Беларускай савецкай энцыклапедыі яшчэ ў 1974 годзе выразна напісалі пра Суворава-карніка: «У час задушэння паўстання 1794 разбіў пад Крупчыцамі 6(19).9.1794 корпус генерала Серакоўскага».

З Кобрына экспедыцыя накіравалася ў тыя мясціны. Згаданай вёскі на карце ўжо няма, яна злілася з суседнімі, а новае паселішча называецца Чыжэўшчына. Няма вёскі, няма, як кажуць, аб'екта і няма гісторыі, дакладней, ніхто не запатрабуе гісторыі вёскі, а тая, калі нават меркаваць па тых скупых звестках, якія адшукаў вядомы гісторык Уладзімір Емяльянчык, вельмі багатая. Мы спыняемся каля сціплага абеліска з расійскамоўным надпісам: «На мясцовых Крупчыцкіх палях 6 верасня 1794 рускімі войскамі пад камандаваннем вялікага рускага палкаводца А. В. Суворава быў разбіты корпус генерала Серакоўскага».

З дапамогай мясцовых жыхароў мы трапілі на поплаў, дзе верагодна, і адбылася тая бітва, а за рэчкай Трасцяніцай, за якой стаіць разбураная калісь сувораўцамі вёска Ходасы, яны ж паказалі нам дуб, вядомы тым, што пад ім адпачываў расійскі генералісімус. Самі мы напэўна б не ўбачылі тое дрэва: за грачаным палеткам відна была толькі гурба рудога лісця. Мы падышлі бліжэй. Волат ляжаў на ўзлеску, убіўшы ў зямлю галіны-рукі, падмяўшы пад сябе адзін слупок агароджы. Ад іншых ужо засталіся толькі ямкі. Пня амаль няма, замест яго ўзвышаецца патрушчаны слуп з цэглы і бетону, якімі латалі-мацавалі магутны калісь дубаў галамень, напалову выпалены. Шкада была гэтага патрыярха палескіх лясоў, якому людзі ўгатавалі незайздросную долю, звязаўшы яго з імем чалавека, адметнай рысай якога было вялікае майстэрства забіваць невінаватых людзей, што стаялі на шляху яго сквапных гаспадароў.

*Тры гады Закону аб мовах*

# КРОК А КОЛЬКІ

Тры гады таму для ажыццяўлення Закона аб мовах была зацверджана пастановай Савета Міністраў рэспублікі адпаведная Дзяржаўная праграма. Калі я пазнаёміўся з ёю па гарачых слядах, у 1990 годзе, ужо тады ў мяне ў сэрцы закралася сумненне, што яна будзе выконвацца: занадта многа дэкларацый, пажаданняў, прыгожых слоў... А што маем сёння?

9 ліпеньскіх дзён я быў у Менску: спачатку ўдзельнічаў у рабоце Першага з'езда беларусаў свету (5—10.07), а потым тры дні наведвання сваякоў, знаёмых, рэдакцый газет, часопісаў, абласнога (менскага) радыё. Асабістыя ўражанні і назіранні гэтых дзён упэўнілі мяне ў думцы: у Рэспубліцы Беларусь Праграма не толькі не выконваецца, а і робіцца ўсё магчымае, каб пахаваць яе, а разам з ёю ўсю справу беларускага Адраджэння. Дарэчы, гэта не толькі мая думка. Мяне падтрымліваюць у ёй многія беларусы Украіны, якія таксама былі дэлегатамі з'езда і маглі сваімі вачамі пабачыць працяг русіфікацыі, а ў Заходняй Беларусі (прынамсі на Гродзеншчыне) яшчэ і распачатую паланізацыю каталікоў-беларусаў... Я не маю нічога супраць ні рускай, ні польскай моў, але калі са старонак рускамоўных і польскамоўных выданняў незалежнай дзяржавы, якой сябе абвясціла на ўвесь свет Беларусь, раз-пораз льецца бруд на дзяржаўную мову рэспублікі, арганізоўваюцца кампаніі за наданне мове суседняй дзяржавы статуса другой дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь, пачынаеш сумнявацца не толькі ў памянёнай Праграме, але і ў сумленнасці яе стваральнікаў. Штосьці, а пускаць пыл у вочы падчас панавання КПСС—КПБ у Беларусі навучыліся адмыслова.

Але вернемся да Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых моў у БССР. Пералічваць пункты першага раздзела няма патрэбы, бо ўсе, хто цікавіцца роднай мовай, чытаў Праграму (не мог не чытаць!) і ведае іх. Многа тут выканана? Кот наплакаў. А вось другі раздзел. На 1990—91 гады прадпісвалася выканкамам Саветаў народных дэпутатаў, міністэрствам і ведамствам рэспублікі забяспечыць афармленне тапанімічных назваў, назваў устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый, а таксама выданняў інфармацыйнага і рэкламнага характару на беларускай мове. Паглядзіце ўважліва навокал. Вы ўпэўніцеся, што нават у сталіцы (не кажу ўжо пра правінцыю, дзе ўсё застаецца на ўзроўні 70—80-х гадоў) выконваецца гэтае патрабаванне працэнтаў на 30—40, не больш! Не масава яшчэ афармляюцца па-беларуску таварныя знакі, сродкі маркіроўкі тавараў, этыкеткі, інструкцыі аб карыстанні таварамі... Па-ранейшаму паштовыя штэмпелі «гавораць» нам тут, на Украіне, што мы атрымліваем пісьмы і паштоўкі не з суверэннай Беларусі, а з абласных ці раённых гарадоў расійскай часткі... СССР! Ды няўжо так складана мяняць паштовыя штэмпелі на новыя, каб там была напісана па-беларуску назва населенага пункта, а таксама ж па-беларуску і па-ангельску назва дзяржавы; да якога ж часу можна лічыць сябе ўсё яшчэ нейкай міфічнай часткай неіснуючага ўжо СССР?! Тым больш, што яны ж пастаянна зношваюцца. Дзякаваць Богу, хоць паштовыя маркі выпускаюцца свае.

Пад пунктам 8 другога раздзела Праграмы чытаем: «Лічыць мэтазгодным перавесці з рускай мовы выданні на беларускую раённыя і абласныя газеты, а таксама рэспубліканскія «Сельская газета», «Физкультурник Белоруссии», бюлетэнь «7 дней», часопіс «Сельское хозяйство Белоруссии» і іншыя галіновыя выданні». Тэрмін выканання — 1990—93 гады. А што бачым на справе? Усё шыварат-навыварат. Не рускамоўныя газеты і часопісы пачалі пераходзіць на беларускую мову, а наадварот: усё болей і болей беларускамоўных выданняў становяцца «двухмоўнымі»: на беларускай мове падаецца назва выдання, 10—20 працэнтаў другасных матэрыялаў, а ўсё астатняе — на мове ўсходняга суседа! Дажыліся, нічога не скажаш: бачыў на свае вочы нумары «Мінскай праўды», «Магілёўскай праўды», іншых «суперінтэрнацыянальных» выданняў. А чаму б не накласці спагнанне на рэдактараў такіх самавольных выкрутасаў з дзяржаўнай мовай? Пакаралі б аднаго-другога, а потым вярнулі выданне на дзяржаўную мову, глядзіш, у некаторых рэдактараў і прапала б ахвота вылузвацца са скуры ў шальмаванні беларускай мовы. А калі і надалей будзе нешта падобнае тварыцца, то людзі не хутка яшчэ ачомаюцца ад русіфікацыі. Што да газеты для сельскіх жыхароў (яна зараз стала называцца наогул здзекліва — «Белорусская нива»), то пара ўжо прыцягнуць да адказнасці за русіфікатарскую дзейнасць увесь калектыў рэдакцыі. Да якога часу будзе яшчэ працягвацца гэты здзек? Няўжо нам, беларусам бліжняга і далёкага замежжа, трэба звярнуцца ў ЮНЭСКА ці ААН, каб гэтыя ўплывовыя арганізацыі паўшчувалі русіфікатараў? Відаць, давядзецца: мы ўжо аб гэтым у кулуарах з'езда гаварылі...

Што да іншых пунктаў другога раздзела Праграмы, а іх дванаццаць, не выконваюцца і яны: як не было ў продажы пішучых машынак з беларускім шрыфтам, так і няма, і г.д., і г.д.

Хочацца закрануць адну праблему з трэцяга раздзела адносна выкарыстання беларускай мовы ў рабоце ўстаноў адукацыі і культуры. Паколькі я працую ў сістэме адукацыі, то павяду гаворку менавіта ў гэтым накірунку. На лекцыях ва універсітэце нам «трубілі», што руская, украінская і беларуская мовы вельмі падобныя, і прадстаўнікі гэтых народаў могуць добра разумець адзін аднаго, не вывучаючы чужую мову: гэта значыць, што рускія людзі могуць разумець беларусаў і ўкраінцаў, не вывучаючы іхніх «мужыцкіх» моў. А вось «мужыкі» (беларусы і ўкраінцы) чамусьці павінны былі вывучаць рускую мову, каб... «разумець рускіх». Парадокс, праўда? У гэтым годзе ўкраінцы вырашылі пакончыць з такім нераўнапраўем: раз расійцы не вывучаюць украінскай мовы (маю на ўвазе ў школах і ВНУ Расіі), то і мы, украінцы, пераста-

нем вывучаць рускую мову ўжо з 1 верасня 1993 года. Курс «руская мова» выведзены з абавязковых навучальных планаў школ з украінскай, польскай, румынскай і венгерскай мовамі навучання. Яна, руская мова, увайшла ў неабавязковы цыкл прадметаў (іх тут аж 16, а выбіраць можна толькі 2). Можна сабе ўявіць, колькі знойдзецца «ахвотнікаў», якія захочуць яе вывучаць па сваім жаданні!.. А што ж браткі-беларусы?! Тут усё захоўваецца на сваіх месцах: абавязковае вы-

ват... на стэндах кінатэатра «Беларусь».

Не буду закранаць раздзела «Выдавецкая дзейнасць» па прычынах, усім нам добра вядомых: адсутнасць паперы і іншых кампанентаў, неабходных для паліграфічнай вытврчасці.

У 5 раздзеле Праграмы пад пунктам 11 сказана: «Міністэрствам і ведамствам БССР, выканкамам Саветаў народных дэпутатаў перыядычна разглядаць ход выканання Дзяржаўнай праграмы, прымаць неабходныя захады па сваечасовому

# НАПЕРАД... НАЗАД?

вучэнне не толькі сваёй, але і... рускай! Навошта ўсё гэта?! Няўжо сапраўды беларус не зразумее рускага чалавека, калі перастане вучыць такі прадмет, як руская мова?! Не веру. Чэхі і славакі маюць вельмі падобныя адна да адной мовы (прыкладна гэтаксама падобныя паміж сабой і беларуская з рускай), але ніколі славакі не вывучалі як прадмет чэшскую мову, а чэхі— славацкую! Яны разумнейшыя за беларусаў? Цяжка нешта сказаць, але тое, што яны мудрэйшыя, гэта так! Гэтулькі часу, колькі траціцца вучнямі-беларусамі на асвойванне правіл рускай граматыкі, лепей бы перадаць на вывучэнне англійскай, нямецкай, французскай! А ў нас жа дайшлі да абсурду: на вывучэнне блізкароднаснай мовы адводзіцца больш гадзін, чымсьці на вывучэнне рамана-германскіх. Дык дзе ж наша мудрасць, спадары з Міністэрства адукацыі?

І ці не пара пайсці ў моўнай палітыцы шляхам украінцаў: рускую мову ў беларускамоўных школах вучні павінны вывучаць толькі па сваім жаданні, факультатыўна...

А як беларуская мова ўжываецца ва ўстановах культуры, дастаткова глянуць толькі на адны сталічныя кінатэатры, дамы і палацы культуры! Дасюль красуюцца шыльды па-расійску на кінатэатрах, большасць кінаафіш па-ранейшаму пішацца на недзяржаўнай мове. На-

ажыццяўленню праграмы і пры неабходнасці ўносіць прапановы па яе ўдасканаленні, па яе ўдакладненні і дапаўненні». Як кажуць, каментар лішні. Няма ніякай перыядычнасці «разглядання» ходу выканання Праграмы, таму што яна не выконваецца на ўсіх узроўнях улады, пачынаючы ад самога Савета Міністраў РБ, структуры якога працягваюць працаваць на расійскай мове, за рэдкім выключэннем: міністэрствы культуры, адукацыі, інфармацыі, з нацяжкай сувязі і інфарматыкі. Вось і ўсе «эшалоны», дзе ёсць кволыя парасткі беларускага Адраджэння, дзе сам міністр калі ў паўсядзённым жыцці і не карыстаецца дзяржаўнай мовай, то хоць дае змогі гаварыць на ёй з беларускамоўным наведвальнікам. У час работы «круглага стала» «Беларуская дыяспара» мне давялося пачуць з вуснаў міністраў Гайсёнка і Бутэвіча беларускую мову не толькі з трыбуны, але і паразмаўляць з імі па-беларуску, што пакінула ў маёй душы прыемны ўспамін — ёсць жа разумныя міністры.

Дык што ж, шаноўнае спадарства, будзем рабіць? Як прымусіць абруселых чыноўнікаў-беларусаў, а гэтаксама прышлых з Усходу, якія ў большасці сваёй займаюць ключавыя пасады ва ўсіх эшалонах улады на Беларусі, працаваць не на страту Адраджэнню, а на яго?

**Пятрусь КАПЧЫК**, філолаг.
г. Ізяслаў, Украіна.

# Як нас знаходзяць землякі
## (з жыцця піцерскіх беларусаў)



Тэлефонны званок быў нечаканым. Ды і голас незнаёмы: не належаў тым, з кім сустракаўся апошнімі днямі ў Менску, дзе адбываўся Першы з'езд беларусаў свету, і тут, у Санкт-Пецярбургу, пасля вяртання дамоў. Высветлілася, што гэта Людміла Мельнікава — сябра нашай пецярбургскай суполкі. Яе першае пытанне: што адбывалася ў Менску, як прайшоў з'езд? Прыемна: каб абмяняцца ўражаннямі, тэлефануе не хтосьці з самых актыўных піцерскіх беларусаў, а чалавек, які не вылучаецца асаблівай актыўнасцю, хоць рэгулярна прыходзіць на пасяджэнні нашай суполкі. Міжвольна згадалася знаёмства з Людмілай Мельнікавай.

...Гэта было гады два таму, калі ў госці да беларускай суполкі прыехаў з Міханавіч, што пад Менскам, дзіцячы ансамбль «Калыханка» пад кіраўніцтвам Ларысы Рыжковай. Канцэрт меўся адбыцца ў Зялёнай зале Зубаўскага палаца (Ісакіеўская плошча, 5).

На горадзе віселі адпаведныя афішы, якія запрашалі ў госці да «Калыханкі» сяброў суполкі разам з сем'ямі. Але і за паўгадзіны да пачатку народу сабралася малавата, бо, як звычайна, гараджане прыходзяць ледзь не ў самы апошні момант.

Сярод прысутных я заўважыў дзвюх незнаёмых спадарынь. Яны няўпэўнена азіраліся, быццам сумняваючыся, ці туды трапілі.

З размовы даведаўся, што прыйшлі яны менавіта на гэты канцэрт, сустрэўшы аб'яву на Сувораўскім праспекце, што самі яны — беларускі. Адна з іх — Ларыса Мельнікава — прыехала з Бацькаўшчыны нядаўна да сваёй сястры Тамары Альхавік. У вялізным Пецярбургу абедзве больш сваякоў і нават знаёмых не маюць, але добра было б, натуральна, знайсці каго свайго.

— Дык, напэўна, вы якраз ужо знайшлі тое, што шукалі. Прыходзьце да нас, у беларускую суполку.

З той пары Ларыса Мельнікава не прапускае амаль ніводнага пасяджэння, што мяне вельмі радуе. Тлумачу: у сваёй большасці суполка піцерскіх беларусаў складаецца з навукоўцаў і людзей творчых прафесій. А вось рабочыя ў нас, на жаль, рэдкасць.

Аднаго разу ў майстэрні Янкі Чарнякевіча, куды часта прыходзяць беларусы, каму трэба шчыра пагутарыць за спадачкам кавы, я пачуў ад спадарыні Ларысы:

— Куды мне яшчэ хадзіць? Я ў беларускай суполцы — як свая. І пагаварыць ёсць з кім, і пабачыць многа цікавага. Напрыклад, гісторык Валянцін Пятровіч Грыцкевіч звычайна такое расказвае, што нідзе болей не пачуеш. А з мастакамі я дагэтуль увогуле не сябравала. І тое, што мы не па-руску, а на сваёй мове размаўляем, абавязкова стварае ўяўленне, што я нібыта дома, на сваёй Магілёўшчыне...

Што ж можна дадаць да гэтых слоў? Толькі тое, што мала яшчэ ў суполцы простых рабочых людзей, такіх, як Ларыса Мельнікава. Адна з прычын гэтага — не маем пакуль свайго памяшкання, сваёй «беларускай хаткі». Спадзяёмся, што ў хуткім часе беларускія прадпрымальнікі ў супольнасці з Беларускім грамадска-культурным таварыствам Санкт-Пецярбурга адчыняць Беларускі гандлёвы дом у горадзе на Няве. Тады нашы магчымасці па аб'яднанні піцерскіх беларусаў значна ўзрастуць. Не трэба будзе спяшацца за адну гадзіну у Расійскім музеі этнаграфіі (дзе нам часова выдзелілі памяшканне) абмеркаваць усё, што нас хвалюе і непакоіць. У сваёй «беларускай хатцы» можна будзе спакойна пасядзець, сапраўды, як дома. Вось тады ў суполцы стварылася б тая вельмі шчырая атмасфера, якая пануе, напрыклад, у Беларуска-эстонскім згуртаванні (БЭЗе), з сябрамі якога мне пашчасціла пазнаёміцца на з'ездзе беларусаў свету. Завочна я іх ужо ведаў, бо нашы мастакі ладзілі выставу ў Кохтла-Ярве і шмат расказвалі пра сваіх новых сяброў. Але калі на свае вочы пабачыш людзей, калі пасядзіш з імі гадзіну-дзве, то, сапраўды, не хочацца развітвацца з тымі, ад каго выпраменьваецца цяпло і спагада. Я пазайздросціў Уладзю Дзехцеруку, які стварыў БЭЗ. Адным з немалаважных фактараў, што БЭЗ мае такі сімпатычны, вельмі чалавечны твар, з'яўляецца якраз тое, што ў іх ёсць месца, дзе можна спакойна, без тузаніны, збірацца і дзе сябры БЭЗа могуць быць шчырымі.

Праблема памяшкання — вельмі балючае для нас пытанне. Калі яно — дай Божа!— будзе вырашана, то наша суполка непазбежна набудзе новыя якасці. Яна, папершае, атрымае магчымасць згуртаваць вакол сябе большае кола людзей. Яна зробіцца сапраўдным куточкам Беларусі, каб кожны з піцерскіх беларусаў не адчуваў адзіноты, якая час ад часу тут ахоплівае нас. Беларусаў у Санкт-Пецярбургу шмат. Але далёка яшчэ не ўсе з іх ведаюць, што беларуская суполка тут ужо нарадзілася, што яна працуе і дзейнічае.

Якімі шляхамі прыйдуць да нас новыя людзі — вызначыць немагчыма. Мо, гэта будзе так, як адбылося з Аленай Картавіцкай, якая прыехала на жыхарства ў Пецярбург і проста-такі «вылічыла», дзе нас знайсці, бо на Беларусі бачыла тэлеперадачу пра гарадское Беларускае грамадска-культурнае таварыства. А мо, гэта будзе так, як адбывалася ў самым пачатку, калі выкладчык Пецярбургскага інстытута культуры Валянцін Грыцкевіч, мастак Янка Чарнякевіч, супрацоўнік Расійскай нацыянальнай бібліятэкі Мікола Нікалаеў і іншыя яшчэ толькі марылі пра тое, каб стварыць суполку, і літаральна па кроплях збіралі звесткі пра тых беларусаў, якія жывуць у Пецярбургу. Кола нашых сяброў пашыраецца, суполка набывае вагу і моц. Таму слова ўдзячнасці сёння трэба сказаць тым, хто стаяў ля вытокаў яе ўтварэння

**Анатоль КІРВЕЛЬ,**
**сябра БГКТ у СПб,**
**удзельнік Першага з'езда беларусаў свету.**

Мясцовыя жыхары паказалі нам доўгі курганок у лесе — верагодную магілу палеглых у тым баі. У. Емяльянчык ведаў таксама, што паўстанцаў пахавалі каля кляштара, на месцы якога стаіць цяпер царква. Але каля яе аніякай згадкі пра магілы.

Хавалі палеглых, відаць, мясцовыя сяляне. Магчыма, целы некаторых паўстанцаў забралі родныя. Вядома, што ў войску Ю. Серакоўскага, як і наогул у паўстанцкіх атрадах, было шмат касінераў — сялян, адзінай зброяй якіх былі выпрамленыя косы. У архіўных дакументах, якія адшукаў У. Емяльянчык, падаюцца прозвішчы палонных: шмат якія з іх — тыповыя сялянскія прозвішчы Берасцейшчыны.

Дарэчы, згаданая бітва каля Крупчыцаў нікому не прынесла перамогі. Ноччу паўстанцы адыйшлі да Брэсця, дзе праз дзень, 8 верасня, адбылася другая бітва. Тое месца яшчэ трэба шукаць.

Маршрут па Берасцейшчыне закончыўся у Малых Сяхновічах, дзе, на жаль, нічога не засталося ад былой сядзібы, і толькі каля школы стаіць бюст Т. Касцюшкі.

Паўстаннем 1794 года была ахоплена ледзь не ўся Беларусь. І з Палесся экспедыцыя накіравалася на Браслаўшчыну. У мястэчку Відзы захавалася магіла паўстанцкага генерала Тамаша Ваўжэцкага, які пасля Я. Ясінскага быў галоўным камандуючым. На жаль, магіла парушана, чыгунная пліта з яе знішчана. Паводле слоў 82-гадовай Ядвігі Велічковай, піянервважатая здала пліту на металалом. (Пра гэта нібы пісала браслаўская раённая газета). Але тады пані Ядвіга схавала крыж, і цяпер ён стаіць каля бетоннага надмагілля, на якім толькі словы «Томаш Вовжэцкий» і лічбы: 1751—1816.

Экспедыцыя наведала і вёску Відзы Лаўчынскія, дзе Тамаш Ваўжэцкі нарадзіўся.

Адна з самых вялікіх бітваў Паўстання 1794 года адбылася каля вёскі Паляны, што на поўнач ад Ашмянаў. Тут 7 мая сустрэліся паўстанцы Вялікага княства Літоўскага, якімі камандаваў генерал Якуб Ясінскі, з рэгулярным расійскім войскам. Паўстанцы атрымалі перамогу. Сяброў экспедыцыі цікавіла, дзе магла адбыцца бітва. Мясцовыя жыхары не маглі дапамагчы нам. Вось толькі Іван Заянчкоўскі паказаў нам месца на Бароўскай гары, дзе калісьці бралі жвір. І там аднойчы экскаватар наткнуўся на чалавечыя косці, якія знаходзіліся неглыбока. Тады кар'ер пакінулі і пачалі капаць у іншым. Але цяпер, на жаль, гэтая гара амаль цалкам ускапаная, а на тым месцы, дзе, можна меркаваць, былі пахаваныя паўстанцы,— роўнае поле. Даследчыкаў чакаюць пошукі ў архівах, успаміны паўстанцаў, і магчыма, удасца знайсці планы бітвы ці згадкі пра месца бітвы.

Ад Палянаў Якуб Ясінскі павёў сваіх жаўнераў далей, кіруючыся на Смаргонь. Каля Солаў 26 чэрвеня адбылася новая бітва з аддзеламі расійскага войска.

Праз Солы экспедыцыя накіравалася ў родныя мясціны вядомага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага, які актыўна ўдзельнічаў у паўстанні. Ён узначаліў баявы рэйд паўстанцкага атрада на Меншчыну ў чэрвені 1794 года, а пасля двухтысячны атрад Агінскага прайшоў праз Браслаўшчыну на Дынабург (цяпер Даўгаўпілс). У маёнтку Залессе, дзе нарадзіўся і жыў Агінскі, быў пастаўлены паўстанцам сціплы помнік — валун, на якім напісалі два словы: «Ценям Касцюшкі». Дзякуй Богу, камень захаваўся. Ён ляжыць у глухім кутку сада, але людзі да яго прыходзяць.

Дуб зламаўся, камень ляжыць, адзіны пакуль камень-помнік паўстанцам 1794 года. Шмат якія мясціны чакаюць яшчэ чарговую экспедыцыю, даследчыкаў і помнікаў.

**З. СІЦЬКО.**



*Загадкі нацыянальнага*

*Эрнэст ЯЛУГІН*

# РУСКІЯ... РУСКІЯ — ХТО?

**«О Руская земле!**
**Уже за шеломянемъ еси!»**
***Слово о плъку Игореве.***

**«Скорее всего остатки этого буйного племени покоятся на дне Атлантического океана».**
***Леў Гумілёў. «От Руси к России».***

Працяг. Пачатак у № 35.

Усяго праз нейкае, аднак, пяцігоддзе кнігу Пакроўскага ягоныя ж калегі-марксісты малодзейшай генерацыі аб'явяць шкоднай, і яна знікне з бібліятэк. Падобная практыка замоўчвання альбо «паляпшэння» гістарычных фактаў працягваецца. У гэтым сэнсе ўразіў «Изборник. Повести древней Руси», выдадзены ў Маскве прэстыжнай «Художественной литературой» у 1986 г. пры ўдзеле акадэміка Д. С. Ліхачова (напісаў уступнае слова). У Першапачатковай аповесці (летапісе Нестара) укладальнікі кнігі проста выкінулі паведамленне пра запрашэнне славянамі рускіх князёў. Таму спачатку чытачу паведамляецца, як узнікла Славянская зямля, а потым раптам пра смерць Рурыка. Праўда, у паведамленні пра Алега ўсё ж засталася фраза, што былі ў ягонай дружыне «варагі, і славяне, і іншыя, якія назваліся руссю». А чаму гэтак назваліся, аніяк не здагадаешся.

Адкінуўшы як нешта неістотнае нават факт бясспрэчнага варажскага паходжання імёнаў не толькі саміх першых рускіх князёў, але і іх бліжэйшага акружэння, «навейшыя гісторыкі», як іх пазначыў Пакроўскі, начынаюць настойлівы пошук мясцовага паходжання назвы «русь» альбо яе, як меркавалася, адэквата — «рось». А хто шукае, той знаходзіць. Адным ці не з самых таленавітых і дасведчаных распрацоўшчыкаў версіі руска-роскага кораня ў Прыдняпроўскім рэгіёне стаў акадэмік В. А. Рыбакоў.

Аднак перш чым гаварыць пра сутнасць гэтай версіі больш падрабязна, адзначым два істотныя моманты: 1) Згодна з летапісам Нестара, паклікалі сабе на княжанне варагаў-русь славяне наўгародскія (магчыма, дакладней — ладажскія), крывічы ізборскія, а таксама весь і чудзь белазёрскія. Не бралі ўдзелу ў гэтай акцыі населеныя крывічамі Полацк і залежны ад яго Смаленск. Не таму, што аказаліся большымі патрыётамі, а па прычыне празаічнай — тут ужо была «свая» русь і свой князь варажскага паходжання, але іншага роду, чым Рурык. Тым не менш, выбар быў зроблены, і ён акажацца лёсавырашальным для беларускіх земляў увогуле. Пройдзе час, і дачка таго полацкага князя, няскораная Рагнеда, стане адной са святых заступніц народа Беларусі перад Богам і сімвалам яго незалежнасці. Сын жа Рагнедзін як узняў дзіцячымі яшчэ рукамі меч на бацьку-рабаўніка і гвалтаўніка, так потым і павялося з калена ў калена — ажно да бязлітаснага вынішчэння полацкіх князёў, але рашучай няскоранасці Полацка імперскаму Кіеву, пакуль час Вялікага княства Літоўскага, Рускага ды Жамойцкага не прымірыў абедзве старажытнарускія сталіцы — у новых варунках і з князямі зусім іншага роду — Гедымінавага. Праўда, на той час у нядаўна магутным Кіеве засталося ўсяго каля дзвюх соцень насельніцтва, а ягоныя ваколіцы пасля нашэсця ордаў хана Батыя былі ўвогуле пустымі.

2) Між тым — і гэта надзвычай істотна для разумення глыбіннай сутнасці справы — князі варажскія, як потым і літоўскія, нават надзвычай узмацніўшыся, не былі на землях Беларусі самаўладнымі. Яны заключалі з выбарнымі прадстаўнікамі яе вольнага люду пісьмовае пагадненне — што ім дазвалялася рабіць і на якіх умовах. Пазней, у XVI стагоддзі, была распрацавана нават і Канстытуцыя — Статут Вялікага княства. Вялікім князям, асабліва, калі яны па сумяшчальніцтву сталі яшчэ і польскімі, гэтыя канстытуцыйныя абмежаванні не вельмі падабаліся, тым не менш, сістэма «худа-бедна» дзейнічала, ажно пакуль Рэч Паспалітую не разадралі на часткі суседнія імперыі, у тым ліку расійская.

## 3. «Панізоўнікі» ці «лютыя»?

Вернемся, аднак, да версіі акадэміка Б. А. Рыбакова і ягоных прыхільнікаў чыста славянскага паходжання назвы Русь і як сіноніма старажытнай Кіеўскай імперыі, і як абагульняючай назвы розных плямёнаў, што ў яе ўваходзілі. Не будзем асабліва спыняцца на слабай доказнасці прычын, чаму і да Рурыкавічаў на стале Кіева сядзелі князі з варажскімі імёнамі і чаму, калі горад быў сапраўды магутным, нейкі бадзяжны конунг Ольг (Алег), выдаўшы свой атрад за купецкі караван, здолеў не толькі забіць князёў Аскольда і Дзіра, але і заняць іх месца, трон? Затым узурпатар нейкім чынам змог сабраць аб'яднанае войска «амаль усіх усходнеславянскіх плямёнаў» і двойчы вадзіць яго ў паходы на Царград — у 907, а затым у 911 гадах. У той жа час аказваецца, што наогул назіраецца, па словах Б. Рыбакова, «бескантрольнае павелічэнне колькасці варагаў у кіеўскім войску», і яны зноў жа «бескантрольна» рушылі нават на Каспійскае ўзбярэжжа. Ды так, відаць, густа, што тамтэйшыя пісьменнікі, на думку Б. Рыбакова, нават зблыталі іх са славянамі, называючы «русамі» і дзівячыся іх жахліваму лютаванню. Не, запэўнівае Б. Рыбакоў, то былі-такі нарманы, а «сапраўдныя русы-славяне ў паходах гэтага дзесяцігоддзя (903—913) аказаліся, відаць, моцна разбаўленымі не кіруемымі атрадамі варагаў, якіх мясцовае насельніцтва прымала за русаў».

Дапусцім. Паспрабуем уявіць таксама, што назва Русь сапраўды мясцовая і азначае (на якой, праўда, мове?) «саюз саюзаў» славянскіх плямён, накшталт аб'яднання вяцічаў. А пайшла... ад жыхароў горада Родзень, што ў трох з паловай днях шляху ад Кіева ў нізоўі рэчкі Рось — росаў, значыць. Род ці племя? Лічым — племя. Няхай там сапраўды знаходзілася галоўнае капішча вышэйшага бога старажытных славян Рода, і той быў «больш значным, чым дружынна-княжацкі Пярун, што прыйшоў яму на змену». (Б. А. Рыбакоў. Мир истории. Начальные века русской истории. Выданне 2-е, М., 1987, с. 88). «Прыйшоў на змену»... Калі прасцей — перамог? Няхай не збройна, а ў спаборніцтве, у канкурэнцыі. Ці быў у Родзені свой князь? Але ўсё роўна мацнейшым з'яўляўся кіеўскі. Гэта адназначна. Выходзіць, не роскі-родзенскі, а палянскі? Бо тэрытарыяльна Кіеў належаў палянам, а тыя, дарэчы, лічыліся адным з самых на той час магутных усходнеславянскіх плямёнаў. Тым не менш і палянскі правадыр (князь?) не здолеў аб'яднаць суседзяў у адну дзяржаву Палянскую (а такое аб'яднанне, якое пазней нярэдка пераўтваралася ў нацыю, ішло адным накірункам: ад моцнай вярхоўнай улады — уніз, у народ), а толькі займаўся зборам даніны з суседзяў. А іншым разам і з саміх палян яе такі бралі «неразумныя» хазары.

Мяркуючы па дакументах і паданнях, у жыхараў парэчча Росі не было наладжана і той сістэмы адбору і выхавання «кадраў» менавіта для вайны. Скажам, падобна спартанскаму. Хто пасвіў жывёлу, хто лавіў рыбу, нехта служыў у гандлёвым флоце ці і сам гандляваў, але ж быў падначалены «людзям з Куябы» (Кіева). Словам, гэта не саксы. Тым больш не такі ўнікальны гадавальнік «людзей вайны» і пірацтва, якой аказалася Скандынавія тых часоў. Адгароджаная ад набегаў ваяўнічых орд морам і скаламі, але яшчэ з неразвітай уласнай вытворчай структурай, яна стала няшчасцем для сваіх больш мірных суседзяў-землярobаў. Пісьмовыя крыніцы старажытных скандынаваў дазваляюць зазірнуць у гэтую пякельную «кузню» бязлітасных ваяроў і авантурыстаў. Як і ў грэчаскай Спарце, тут пакідалі ў жывых толькі здаровых дзяцей. Ужо малалеткі пераважна вучыліся баявому майстэрству і праходзілі жорсткую фізічную і псіхалагічную загартоўку. Гэтым кіравалі нешматлікія ветэраны, якім пашчасціла вярнуцца з далёкіх драпежніцкіх паходаў. Завучваліся сагі — спеўныя казанні скальдаў пра крывавыя подзвігі вікінгаў. Групы моладзі ўступалі ў бойкі і паміж сабой, вылучаючы правадыроў з самых моцных, спрытных і хітрых. Пераможаных не шкадавалі. Калі яны не гінулі ад мяча ці сякеры ў двубоях, то вярталіся дахаты і займаліся гаспадаркай. Астатнія ўліваліся ў атрады мацёрых віцязяў і пад уздых палёгкі мясцовага насельніцтва накіроўваліся ў паходы за ваеннай здабычай, што і было сэнсам іх страшнага жыцця. Яны самі сябе ў першую чаргу называлі русамі? І ці ёсць увогуле нейкая розніца паміж словамі «рось» і «русь»? Б. А. Рыбакоў лічыць — няма. Проста справа ў вымаўленні суседзямі.

Адкладзем пакуль у бок летапіс Нестара, іншыя пісьмовыя сведчанні. Проста зірнем на сучасную карту нядаўняга СССР. На Украіне, Беларусі і ў заходняй частцы Расіі мы заўважым назвы геаграфічных пунктаў з каранямі «рос» і «рус». Успомнім у гэтай сувязі такую асаблівасць тапанімікі: назва пэўнага населенага пункта паказвае ягоную адметнасць ад астатніх у дадзенай мясцовасці, у тым ліку этнічныя асаблівасці першых насельнікаў, калі яны гэтым адрозніваліся ад навакольных жыхароў. Цяпер чытаем: вёска Русава. Хутчэй за ўсё, яе заснаваў нейкі рус. Русінавічы — паселішча нашчадкаў руса. Гэтак жа можна расшыфраваць паселішчы Ляхавічы, Ляхі, Татаршчызна, Гуды, Гудзевічы і падобныя.

А назвы з коранем «рос»? На першы погляд дзіўна, але яны могуць знаходзіцца па суседству ад русаў. І тут становіцца цяжкавата спасылацца на асаблівасці вымаўлення з усходу ці з захаду.

Не будзем пакуль задавацца пытаннем пра тоеснасць ці ўсё ж рознасць сэнсавага значэння гэтых слоў. Паспрабуем вырашыць іншае: ці сапраўды яны ўласцівыя адным усходнім славянам? Ці не першае, пра што ў такім выпадку спытаў бы любы дапытлівы школьнік: а чаму гэта знакаміты Фідэль Кастра з ягонымі іспанскімі продкамі яшчэ і Рус? Зазірнем тады ў энцыклапедычны слоўнік: Уільям Рос (Англія), Джон Рос (Англія), Бруна Росі (Італія), Карла Росі (Італія), Луіджы Росі — зноў італьянец, а знакамітасцей з гэтым прозвішчам толькі ў энцыклапедыі застаецца яшчэ з добры тузін. Ёсць, аказваецца, словы з гэтымі каранямі ў пераважнай большасці заходнееўрапейскіх моў, на якія некалі аказала ўплыў лацінская. То каб адразу заглыбіцца ў старажытнасць, і раскрыем Слоўнік лацінскай мовы. Ну вось: rōs — раса́, альбо яшчэ — вільгаць. Ці: rōs*idus*, *um* ros — росны. А тут увогуле нешта неверагоднае: *R*ōsea — Ро́сея (Ро́зея). Так называецца хлебародная нізінная вобласць у Італіі.

А «рус»? Калі ласка: r*ū*s — сельская мясцовасць, вёска, правінцыя. *Ru*selan*us* — жыхар горада Руселія. А зараз асаблівая ўвага: 1) r*u*stic*us*, *um* r*us* — сельскі, правінцыйны грубіян, нахабнік; 2) *R*uss*us* — чырвоны; 3) Увага: r*u*ssāt*us*, *um* r*us* — афарбаваны ў чырвоны колер, пабарваваны, а яшчэ — скрываўлены...

Тут вернемся да варагаў. Перад тым, як распачаць напад на некага, яны адпаведным чынам рыхтаваліся псіхалагічна. Апошнім у гэтым жудасным рытуале, як сведчыць французскі храніст з Нармандыі Дудон Квенцініянскі, было ахвяпрынашэнне богу вікінгаў Тору. Жрэц для гэтай мэты выбіраў палоннага. Ударам бычынага ярма па галаве яго аглушалі. Затым асаблівым прыёмам узразалася галоўная артэрыя, і з ахвяры выцэджвалася ўся кроў, «якою,— сведчыць храніст,— яны абмазвалі свае галовы і адразу ж хутка разгортвалі ветразі сваіх караблёў...»

Пагрозлівым знешнім выглядам, адвагаю, адмысловым баявым умельствам, а таксама бязлітаснасцю варагі наводзілі жах на тых, хто ім супрацьстаяў, і часта перамагалі. Аднак каб перамагчы, а потым надоўга застацца на заваяванай тэрыторыі, спатрэбіліся і больш спагадлівыя адносіны з мясцовым насельніцтвам, і нават новыя багі. Рурыкавічы, умацаваўшыся ў Кіеве, палічылі мэтазгодным памяняць грознага Перуна на хрысціянства. Прычым візантыйскага ўзору. Яно было найбольш прыстасаваным для прапаганды пераўтварэння ўдзельных княстваў у адну дзяржаву з гасударам «ад Бога», а не па найму. Плямёны новых земляў, што скарыліся Кіеву і плацілі даніну «за ахову», паступова, але, дзякуючы новай царкве з яе манастырскімі разгалінаваннямі, моцна засвойвалі, што належаць Цэнтру, дзе валадары — русы, а таму самі яны — рускія. Хрысціла людзей царква, якая мела тэрытарыяльна-дзяржаўную, а не толькі канфесійную адметнасць,— руская, з мітрапалітам (цэнтрам) у Кіеве, а таму і паства яе набывала зноў жа адпаведную накіраванасць.

Тым не менш насельніцтва, якое памятала: некалі яно ставіла князя, і той падпісваў умовы валадарання, не магло змірыцца з тым, што яго імкнуліся пературварыць, калі ўжыць сучасны прававы тэрмін, з грамадзян у княжацкую маёмасць — халопаў. Успомнім, што некалькі пазней бацьку Івана Чацвёртага, а потым яшчэ ў дадатак і самому Жахліваму давялося двойчы фізічна знішчыць значную частку насельніцтва Ноўгарада, а астатніх вывозіць куды каго, каб на іх месца прыгнаць халопаў, перш чым рэспубліканскія вольнасці сталі крамольнымі былінамі.

*Працяг на с. 6.*

## Вучымся!

### З архіваў

# «Выпадкова выплыла пытанне...»

Пытанне, пра якое пойдзе гаворка, паўстала пры адкрыцці Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (лістапад 1926 г.). У прэзідыум надалі запіску-прапанову. Вось яе дакладны тэкст (аўтограф захоўваецца ў Нацыянальным архіве Беларусі, фонд 4, вопіс 21, справа 108, аркуш 18):

«Прэзідыуму Канферэнцыі.

Мы лічым, што ў Б.С.С.Р. на працягу бліжэйшых гадоў праз пачатковую школу і праз друкаванне частткі нашых кніжак і газет, а таксама і іншым, добра абмеркаваным метадам павінна быць уведзена лацінка, якая цяпер ужываецца ў Заходняй Беларусі (з належнымі, калі трэба, папраўкамі ў ёй). Паралельна застаецца гражданка датуль, дакуль будзе патрэбна для правядзеньня рэформы».

У канцы тэкста, напісанага чорным атрамантам, дададзена алоўкам і іншаю рукой: «Умова — сувязь з усёй СССР». Далей ідуць сорак подпісаў; не ўсе з іх чытальныя, але прозвішчы большасці надпісантаў прачытваюцца вельмі выразна. Ды якія прозвішчы!: М. Гарэцкі, Ул. Чаржынскі, Бр. Эпімах-Шыпіла, У. Ігнатоўскі, Гаўрыла Гарэцкі, Яз. Дыла, Арк. Смоліч, Міх. Грамыка, Ал. Шлюбскі, П. Бузук, А. Цьвікевіч, Альберт Паўловіч, Я. Бялькевіч, З. Жылуновіч, Я. Плашчынскі (Яз. Пушча), Кузьма Чорны, Хв. Імшэньнік, Якуб Колас, А. Гурло, А. Бабарэка, С. Некрашэвіч, Я. Лёсік...

Некаторыя подпісы суправаджаюцца агаворкамі аўтараў: «прынцыпова за ўвядзеньне лацінкі, але ў сучасны момант баюся, каб не адбілася на заходняй частцы Беларусі ў бок паланізацыі» (Я. Бялькевіч); «прынцыпіяльна лічу лацінку патрэбнай, але гэтае пытаньне яшчэ не на чарзе нашага дня» (Якуб Колас); падтрымаў прапанову, але «з вялікай асьцярогай» (С. Некрашэвіч). Паказальная па-свойму і заўвага Язэпа Лёсіка, аднаго з вядомых і паважаных тагачасных тэарэтыкаў і практыкаў кадыфікацыі беларускае мовы: «лічу патрэбным увесці лацініку поплеч з кірыліцай, але не засланяць ёю кірыліцу».

Меркавалася напачатку абгаварыць прапанову наконт лацінкі на секцыйных пасяджэннях Канферэнцыі, аб чым сведчыць адпаведная памета ў верхнім раду запіскі: «У камісію». Але да дыскусіі над пытаннем, здаецца, не дайшло.

Пацверджанне таму знаходзім у інфармацыйнай нататцы пад грыфам «сов. секретно», скіраванай у ЦК ВКП(б) за надпісам тагачаснага першага сакратара ЦК КПБ А. Крыніцкага аб выніках згаданае Канферэнцыі. Наогул становача яе ацэньваючы дзеля далейшага развіцця беларускае мовы, усяе культуры, партыйны кіраўнік звяртае ўвагу на паасобныя ўпушчэнні, «националистические увлечения», да ліку якіх адносіць: перавагу нацыянальных, белых з чырвоным колерамі ў дэкараванні залы пасяджэнняў Канферэнцыі, адсутнасць на сцэне партрэта Леніна, сцяга СССР; цёплы прыём «некоторой частью интеллигенции» Ф. Аляхновіча (у хутчасці, як вядома, арыштаванага органамі ГПУ) і, нарэшце, «ошибочную постановку вопроса о латинке, подача соответствующего заявления в президиум Конференции (хотя оно и не было поставлено на обсуждение конференции)». Далей — бальшавіцкае разуменне «небяспекі», выкліканай ініцыятывай інтэлігентаў-«лацінстаў»: «Эта постановка вопроса объективно отражает имеющиеся в части интеллигентных «верхов» тенденции к ориентации на «самостойнасць» и ориентации на запад. Такое объективное значение заявления о латинке смягчается с некоторыми оговорками о возможности эту реформу провести только в связи с СССР» (Российский Центр хранения и изучения информации по новейшей истории. Фонд 17, вопіс 60, адзінка захавання 815, ліст 67).

Разам з запіскай А. Крыніцкага ў Маскву паслалі і копію спецыяльнай справаздачы У. Ігнатоўскага ў ЦК КПБ. З яе і даведаемся, што аўтарам агаворкі наконт сувязі з СССР быў старшыня на Канферэнцыі Усевалад Ігнатоўскі.

«Неудачно и случайно выплыл вопрос о латинской азбуке в белорусском языке. Некоторые члены конференции подали в президиум конференции заявление, что ненужно устранять латинскую азбуку, существующую в белорусском языке. Вопрос этот выплыл в связи с введением латинки в тюркских народов СССР и в Турции. Не успевши посоветоваться в партгрупке*, я, подписав заявление, исправил текст в том смысле, что вопрос о латинке может быть поставлен только в связи с переходом на латинку всего Союза ССР. Так как вопрос не был провентилирован и обоснован, я не ставил его ни на Пленум Конференции, ни на Комиссию Конференции. Тем не менее пошли слухи о том, что Конференция приняла латинку. Объективно создалось впечатление о тяге на Запад, к буржуазной Польше. Этого вопроса не надо было допускать ни в коем случае...» (Таксама, аркуш 81).

Праз пэўны час, у выніку карнае апэрацыі ГПУ над Беларускім Адраджэннем, і Ігнатоўскаму і амаль усім аўтарам запіскі аб лацінцы залічыцца гэтая ініцыятыва ў агульны рэестр іхніх «нацдэмаўскіх» правінаў. З вядомым драматычным ці трагічным зыходам ледзь не для кожнага з падпісантаў.

Ці быў гэты эпізод выпадковым, калі прывабіў да сябе ўвагу людзей самых дасведчаных у справе беларускае мовы, культуры? Як жа сёння ўспрымаць парушанае мала не семдзесят гадоў таму пытанне з лацінкай? Фактам мінулага і толькі? А можа і фактарам, дасюль не запатрабаваным, Беларускага Адраджэння? Тым болей, калі Думка Адраджэння, Рух Адраджэння набіраюць у Беларусі новае гістарычнае дынамікі. Гэтым разам, дзякаваць Богу, без абачнае аглядкі на вокрыкі з цэнтральных кабінетаў СССР.

* Да складу «партыйнае пацёркі» па падрыхтоўцы і правядзенню Акадэмічнае Канферэнцыі ўваходзілі: Ігнатоўскі — ад Інбелкульта, Апанскі — ад ГПУ, Баліцкі — ад Наркамасветы. Абрамчук — ад Агітпропа ЦК КПБ, Казюра — прадстаўнік НКЗМ (НКИД) СССР у Беларусі. — заўвага А. Л.

**Алесь ЛЯМЕЦ.**

# Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

БЕЛАРУСКАЯ НАВУКОВАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ — серыя тэрміналагічных, пераважна двухмоўных (расійска-беларускіх) і аднамоўных (беларускіх) слоўнікаў, падрыхтаваных спецыялістамі і адрэдагаваных Правапісна-тэрміналагічнай камісіяй Інбелкульта (пазней перайменаванай у Галоўную тэрміналагічную камісію, а потым — у Інстытут навуковай мовы) і надрукаваных на працягу 1922 — 30 гадоў. Але гэтая праца была пачата нашай навукова-педагагічнай і творчай інтэлігенцыяй задоўга да абвяшчэння беларускай мовы дзяржаўнай, бо навуковая тэрміналогія ў першую чаргу патрэбная была настаўнікам «для састаўлення падручнікаў і навуковых кніг».

У ліку першых спробаў стварэння ўласнай навуковай лексікі былі граматычная тэрміналогія «Беларускай граматыкі для школ» (1918) Б. Тарашкевіча, слоўнік літаратурных тэрмінаў у кнізе М. Гарэцкага «Гісторыя беларускае літаратуры», распрацоўка Беларускай вайсковай камісіяй ваеннай тэрміналогіі ў брашурах «Вайсковая стылістыка» (1919) і «Каманды па-беларуску» (1920), навуковы артыкул Л. Більдзюкевіча «Асновы беларускай матэматычнай тэрміналогіі» ў педагагічным часопісе.

Але мэтанакіраваная праца была пачата ў 1919 годзе па ініцыятыве Беларускай Школьнай Рады. Скліканая Радай камісія менскіх настаўнікаў утварыла некаторыя беларускія тэрміны, патрэбныя пры выкладанні навук у школе. Яны былі надрукаваны ў выдадзеных Радай «Праграмах беларускай пачатковай школы». У лютым 1921 года гэтая праца аднавілася ў Навукова-тэрміналагічнай камісіі, скліканай Навукова-Літаратурным Аддзелам Народнага Камісарыята Асветы Беларусі. Праца камісіі дала багаты плён. Крыху больш чым за год камісія падрыхтавала і надрукавала на старонках часопіса «Вестник Народного комиссариата просвещения ССРБ» восем тэрміналагічных падборак па граматыцы, логіцы, арыфметыцы, алгебры, батаніцы, геаметрыі, аналітычнай геаметрыі, трыганаметрыі. Усяго было апрацавана каля 3 тыс. тэрмінаў і праектавалася звыш 5 тыс. Ацэнкай гэтай працы было рашэнне тагачаснага ўрада Савецкай Беларусі аб стварэнні на базе камісіі Інстытута беларускай культуры.

Навукова-тэрміналагічная камісія, выпрацоўваючы метадалагічныя прынцыпы «па прыкладу чэхаў, трымалася погляду, што лепш утвараць паводле законаў беларускай мовы неалагізмы, чымся браць чужыя, зусім незразумелыя словы». Камісія была пераканана, «што словы народнай мовы з іх канкрэтным, рэальным значэннем будуць лепш перадаваць навуковыя абстрактныя разуменні, чым словы чужой мовы, што канкрэтныя словы народнай мовы будуць з часам набываць абстрактнае значэнне і, такім чынам, калі тое ці іншае слова сягоння яшчэ не зусім падыходзіць, то праз колькі гадоў яно зусім можа быць на месцы».

Такі метадалагічны прынцып тэрмінатворчасці на беларускай моўнай аснове сустрэў і крытычныя заўвагі. Адны гаварылі, што «жывая народная мова не можа выразіць у патрэбнай меры дакладна навуковую мысль», другія, свядома адмаўляючыся ад такой метадалогіі, казалі, што рабіць па такім рэцэпце новыя словы — гэта значыць скласці тэрміналогію, якая будзе зразумела толькі яе аўтарам.

Не дзіўна, што прыхільнікі абавязковай замены так званых інтэрнацыянальных навуковых тэрмінаў іншамоўнага паходжання беларускімі словамі ў далейшым не атрымалі падтрымкі. Да таго ж, у 30-я гады была рэфармавана і сама наша мова. А карысная для беларускай навукі справа была закінута, і цяпер толькі лічаныя прыхільнікі беларушчыны ведаюць, што ў 20-я гады было выдадзена 24 выпускі «Беларускай навуковай тэрміналогіі» (каля 2500 старонак):

Вып. 1. Элементарная матэматыка. Мн., 1922. 50 с.

Вып. 2. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва. Мн., 1923. 74 с.

Вып. 3. Геаграфічныя і касмаграфічныя тэрміны і назвы нябесных цел. Мн., 1923. 89 с.

Вып. 4. Тэрміналогія логікі і псіхалогіі. Мн., 1923. 63 с.

Вып. 5. Геалогія, мінералогія, крышталаграфія. Мн., 1924. 43 с.

Вып. 6. Батаніка агульная і спецыяльная. Мн., 1924. 83 с.

Вып. 7. Музычныя тэрміны. Мн., 1926. 79 с.

Вып. 8. Слоўнік лясных тэрмінаў. Мн., 1926. 79 с.

Вып. 9. Анатамічныя назвы. Касцяведанне. Вязаведанне. Мн., 1926. 110 с.

Вып. 10. Тэрміналогія права. Мн., 1926. 104 с.

Вып. 11. Грамадазнаўства. Мн., 1927. 96 с.

Вып. 12. Назовы жывёл. Мн., 1927. 72 с.

Вып. 13. Анатамічныя назвы. Ч. 2. Ангіялогія. Мн., 1927. 182 с.

Вып. 14. Слоўнік матэматычнай тэрміналогіі. Мн., 1927. 144 с.

Вып. 15. Слоўнік граматычна-лінгвістычнай тэрміналогіі (Праект). Мн., 1927. 78 с.

Вып. 16. Слоўнік глебазнаўчай тэрміналогіі. Мн., 1927. 64 с.

Вып. 17. Слоўнік бухгалтэрскай тэрміналогіі (Праект). Мн., 1928. 72 с.

Вып. 18. Слоўнік хімічнай тэрміналогіі. Ч. 1. Агульная хімія (Праект). Мн., 1926. 178 с.

Вып. 19. Слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі. Мн., 1928. 77 с.

Вып. 20. Анатамічныя назвы. Ч. 3. Неўралогія. Мн., 1929. 112 с,

Вып. 21. Слоўнік фізічнай тэрміналогіі. Мн., 1930. 289 с.

Вып. 22. Не выйшаў.

Вып. 23. Слоўнік педагагічных дысцыплін. Мн., 1930. 289 с.

Вып. 24. Слоўнік тэрміналогіі агульнай раслінагадоўлі. Мн., 1930. 262 с.

**Паводле В. ШЧЭРБІНА.**

# *Язык, як перац*

Валяецца, як ламачына.
Валяецца, як свіння.
Варочаецца, як мядзведзь.
Ведае, як свае пяць пальцаў.
Век звекаваў, як адзін дзень згуляў
(лёгка прайшло жыццё).
Весела, як рыбцы на кручку.
Відная (ноч), хоць іголкі збірай.
Вісіць (адзенне), як на пудзіле.

Возіцца, як з дудою.
Войска, як хмара.
Войска (ішло) — хмара хмараю.

Вольны, як вецер.
Вольны, як птушка (як птах).
Вольны, як рыба ў нераце.
Вольны, як хмарка.
Востры, як брытва.
Востры, як цвік.
Вочкі, як (дзве) вішанькі.
Вочкі, як зоркі.
Вочкі, як пралескі.
Вочы, як слівы.
Вочы, як у жабы.
Вочы, як у злодзея.
Вочы, як у казла.
Вочы, як у савы.
Вочы, як у свінні
(малыя і салам заплылі).

Вусцішна, як на могілках (уночы).

Вусы, як у рака.
Вусы, як шчотка.
Вушы, як у зайца.
Выбіраецца, як чайка за мора.
Выгадаваў, як кветачку ў садочку.
Выгнала, як тычыну.
Выгналі (усіх чыста), як
сонца пчолак.
Вые, як у піліпаўку воўк.
Выкачаўся, як свіння ў гразі.
Выкручваецца, як вуж (як гад).
Выкручваецца, як уюн.
Вылузаўся, як арэх з шапачкі.
Вылупіў вочы, як сава.




*РУБРЫКУ ВЯДЗЕ ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ*

Адным з першых творцаў, які атрымаў Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры, быў славуты італьянскі паэт, прыхільнік мужнай і жыццярадаснай паэзіі «ў духу класіцызму» Джозуэ Кардучы (1835—1907).

*Джозуэ КАРДУЧЫ*

## На станцыі восеньскім раннем

*(Урывак)*

О, ліхтары вунь — быццам чарадою
За дрэвамі выстройваюцца ззаду,
З-за набрынялых ад дажджу галінак
Святлом гразь мігатліва асвятляюць.

Свіст рэзкі чуецца; нібы рыдае
Паблізу паравоз. Свінцовы колер
Нябёс і гэта восеньскае ранне
Ператвараюцца ў вялізны прывід.

Што ж прымушае моўчкі так спяшацца
Людзей захутаных ад тых вагонаў цёмных:
Дзеля якой журботы невядомай
Ці то дзеля пакут надзей няясных?

Ты, Лідыя, даеш білет у задуменні
Кандуктару танкляваму, сухому
І часу неўтаймоўнаму, і летам,
І радасным і даўгапомным хвілям.

Ля чорнай доўгай чарады вагонаў
Чыгуначнікі йдуць у капюшонах
І свецяць ліхтарамі, й малаткамі
Жалезнымі па счэпках б'юць сталёвых.

І ляскат чуецца працягла-змрочны,
І рэха несуцешнае з глыбіняў
Душы адказвае журботна-смутна,
Нібыта ўтаймаванае рыданне.

Дзвярэй, што зачыняюцца ўжо, грукат
Зневагаю здаецца; і насмешкай
Гучыць сігнал апошні адпраўлення.
Па шыбінах дажджу струмені лупяць.

Пачвара, з металёваю душою,
Дыміць, папыхквае з натугай, вочы-
агні вылупвае; ў страшэннай цемры
Пачвары свіст прасторы робіць выклік...

## Снегапад

Густа й павольна сыпле снег з непрыветнага неба;
Воклічаў, гаманы ў горадзе больш не чутно —

Ані павозак шуму, ані зяленшчыкаў крыкаў,
Ані спеваў любві з сэрцаў людзей маладых.

З вежы на пляцы гукі чуюцца: стогне гадзіннік —
Нібы ўздыхае свет, мне невядомы ўдзень.

Крыллем па шыбах цьмяных птахі б'юць — нібы дўхі
Добрыя, што мяне клічуць і ўслед глядзяць...

Мілыя! Неўзабаве (сцішся, няўрымснае сэрца!)
Ў іншы я свет сыду — ў цемры знайду спачын.

**Пераклад з італьянскай**
**Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

# *Беларускае слова*




Адраджаюцца былыя рэліквіі, звязаныя з нацыянальнай гісторыяй беларускага народа.

«Другое жыццё» атрымала і капліца, пастаўленая ў пачатку стагоддзя ў гонар перамогі паўстанцаў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага над царскімі войскамі. Бойка гэта адбылася пад вёскай Мілавіды Баранавіцкага раёна. Цяпер тут землі калгаса імя Дзяржынскага. На сродкі калгаса і адрэстаўрыравана капліца.

Зараз у Мілавідах з'явілася і вуліца Паўстанцаў 1863 года, мясцовай школе прысвоена імя народнага генерала Аляксандра Ланкевіча, які кіраваў гістарычнай бітвай. А каля памятнага каменя, які ўстаноўлены ў гонар гэтай падзеі, заўсёды жывыя кветкі.

НА ЗДЫМКУ: старшыня Мілавідскага сельсавета Аляксандр Шабель і вучні старэйшых класаў мясцовай школы ля памятнага каменя.

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

**БЕЛІНФАРМ.**

*Паэзіі радок чароўны*

**Сцяпан Сяргей**

## *А лета прайшло*

**Дні сплылі, як пясок паміж пальцаў,**
**І гады незаўважна сышлі.**
**Ноччу верасень сцежку намацваў**
**Між іржышча, між свежай раллі.**

**У лугах пасівела атава,**
**Запазніўся стамлёны касец —**
**Не адна яшчэ пільная справа**
**Выпадае на лета канец.**

**Было ўсё: то выпальвала сонца,**
**То дажджы залівалі жніво...**
**Жоўты ліст паскрабецца ў ваконца —**
**Спраў не скончыў, а лета прайшло.**



* * *

**Ідуць бясконцыя дажджы,**
**Завалакло смугой паўсвета,**
**Самотны бусел на мяжы**
**Вартуе стомленае лета.**

**Праз хмары цэдзіцца святло,**
**Які ўжо дзень не бачна сонца.**
**І нават хатняе цяпло**
**Паўзе туманам на ваконца.**

**Рукой няспешна шкло пратры**
**І як на свежай акварэлі**
**Убачыш: вецер на двары**
**Пустыя гушкае арэлі...**

*Чыталі?*

# Архітэктура Беларусі: што было і што засталося

**За апошнія пяць гадоў «Беларуская энцыклапедыя» выдала шэраг вельмі патрэбных у справе адраджэння беларушчыны кніжак і энцыклапедычных даведнікаў. Так, у 1988 годзе чытачы змаглі набыць «Статут Вялікага княства Літоўскага» (10 тысяч паасобнікаў) і энцыклапедычны даведнік «Францішак Скарына і яго час» (9 тысяч паасобнікаў), у 1989 годзе — энцыклапедыю «Этнаграфія Беларусі» (20 тысяч паасобнікаў), у 1992 годзе — першыя два тамы біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» (5600 паасобнікаў) і іншыя выданні. Зусім нядаўна ў кнігарнях з'явіўся энцыклапедычны даведнік «Архітэктура Беларусі» (10 тысяч паасобнікаў), у якім змешчана больш за 1200 артыкулаў, прысвечаных лепшым творам беларускай архітэктуры з часоў старажытнасці да нашых дзён. Даведнік складаецца з трох частак. У першую частку ўключаны артыкулы пра канкрэтныя творы культавага і грамадзянскага дойлідства, помнікі сядзібна-паркавай, палацавай і замкавай архітэктуры, горадабудаўнічыя ансамблі, мемарыяльныя збудаванні, гарады, гарадскія пасёлкі і сучасныя вёскі. У другой частцы змешчаны тэрміналагічны слоўнік, дзе сабраны асноўныя паняцці і тэрміны, якія ўжываюцца пры апісанні помнікаў архітэктуры. Заключную частку даведніка склалі біяграфічныя артыкулы пра беларускіх архітэктараў і дойлідаў, замежных архітэктараў, якія сваёй творчасцю звязаны з гісторыяй і культурай нашай краіны.**

**Праўда, хоць рэдкалегія і «хваліцца», што ў энцыклапедыі ёсць артыкулы і пра «лепшыя творы архітэктуры, якія не дайшлі да нас з-за ваенных ліхалеццяў, не ўцалелі з-за чыноўніцкага раўнадушша, непавагі і абыякавасці да культурнай спадчыны, усё ж іх не так і шмат у параўнанні з тым, як прадстаўлены ансамблі і асобныя будынкі, збудаваныя ў савецкі час. Можна ж было ўключыць артыкулы не толькі пра самыя лепшыя (а чым горшыя тыя разбураныя, але не ўключаныя?), а пра ўсе (наколькі можна) архітэктурныя збудаванні ўсіх часоў. І ўсё ж хочацца падзякаваць усім, хто працаваў над энцыклапедыяй, за вялікую і патрэбную працу і пашкадаваць, што кнігі «Беларускай энцыклапедыі» выдаюцца мізэрнымі тыражамі. На сённяшні дзень рыхтуецца да выдання першая ў рэспубліцы энцыклапедыя «Археалогія і нумізматыка Беларусі». Так што часцей заглядвайце ў кнігарні.**

**Н. С.**

